



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (1073) БЕЛАСТОК 19 ВЕРАСНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі:**

*Без сумлення і пры вялікім розуме не пражывеш.*
М. Горкі

*Найвышэйшы суд — суд сумлення.*
В. Гюго

*Чыстае сумленне — найлепшая падушка.*
Г. Ібсен

*Думай больш аб сумленні, чым аб рэпутацыі.*
Публілій Сір

## ЗГОДНА З ПУЛЬСАМ ЖЫЦЦЯ

Ранейшай „Беластоцкай газеце", а цяперашняй „Сучаснай газеце" споўнілася 25 год. Нашых сяброў па пяру сардэчна віншуем са знамянальным юбілеем.

Адначасова мы звярнуліся да галоўнага рэдактара „Сучаснай газеты" тав. **Яна Сохі** з некалькімі пытаннямі.

**„Ніва":** Таварыш рэдактар, як вы ацэньваеце змены, якія адбыліся ў сённяшняй „Сучаснай газеце" ў параўнанні з „Беластоцкай газетай", што ўпершыню паявілася 25 год таму назад?

**Тав. Я. Соха:** Цяперашні час карэнным чынам адрозніваецца ад таго, які быў 25 год таму назад. І газета, будучы адлюстраваннем свайго часу, мусіць быць цалкам іншая. Без фальшывай скромнасці неабходна сказаць, што наша газета змянілася непазнавальна так па свайму зместу, як і па форме. Цяпер бачны ў ёй размах, дынаміка зместу, словам яна — вялікая газета. Ды і тыраж яе павялічыўся з 20 тысяч экземпляраў у 1951 г. да 145 тысяч экземпляраў у 1976 г., святочныя ж нумары цяпер выходзяць тыражом да 200 тысяч экземпляраў. Словам, на працягу чвэрці стагоддзя ўсё змянілася.

**„Ніва":** А чытачы?

**Тав. Я. Соха:** Змяніліся таксама! Цяпер нашыя чытачы — гэта людзі з высокім узроўнем адукацыі і патрабавальныя да друкаванага слова. Змянілася таксама і прафесіянальная структура чытачоў, а гэта ёсць натуральны вынік грамадска-эканамічных і цывілізацыйных пераўтварэнняў, якія адбыліся ў нашым рэгіёне. Калі 25 год таму назад Беласточчына была перш за ўсё рэгіёнам вясковым, дык цяпер сярод чытачоў нашай газеты пераважаюць рабочыя, інтэлігенцыя, сяляне, моладзь, а ў яе асяроддзі — студэнты. У ліку нашых чытачоў значную частку складаюць людзі з шырокімі зацікаўленнямі.



*Галоўны рэдактар „Сучаснай газеты" Ян Соха.*
*Фота З. Зарэмбы.*

**„Ніва":** А што змянілася ў рэдакцыі газеты?

**Тав. Я. Соха:** Рос і ўмацняўся наш рэдакцыйны калектыў, павялічваўся яго вопыт, паглыбляліся веды. У сённяшнім звыш 40-асабовым яго складзе знаходзіцца толькі тры асобы, якія пачалі працаваць ад моманту паўстання газеты. Сярод тых, што працавалі ў нашай рэдакцыі, ёсць сем асоб, якія цяпер працуюць у „Трыбуне люду", а дзесяткі — у іншых рэдакцыях. Наша газета змянілася ў такой ступені, што цяпер яна належыць у краіне да ліку тых, якія карыстаюцца высокай ацэнкай і папулярнасцю. Але не змянілася патрэба няспыннага дасканалення журналісцкай работы і павышэння ўзроўню газеты. Не магло змяніцца і наша партыйнае імкненне добра служыць нашаму рэгіёну і актыўна ўдзельнічаць у ажыццяўленні праграмы партыі.

**„Ніва":** Што спрыяе дасканаленню газеты?

**Тав. Я. Соха:** На першым месцы паставіў бы я тут няспынны клопат, спрыяльныя і апладатвараючыя адносіны нашых партыйных органаў да газеты і журналістаў. Рост узроўню нашай працы абумоўлены пастаянным дасканаленнем партыйнага кіраўніцтва сродкамі інфармацыі. Веды, павышэнне кваліфікацый і палітычнае заангажаванне ўсяго рэдакцыйнага калектыву, выкарыстанне агульнага прагрэсу і вопыту работы іншых рэдакцый у краіне і за мяжой, а ў тым перш за ўсё „Цієсы" з Вільнюса і „Гродненской правды" з Гродна — вось таксама істотныя элементы нашага поспеху. Неабходна падкрэсліць, што мы на працягу многіх год з прыемнасцю і вялікай карысцю супрацоўнічаем з Вільнюсам і Гроднам.

(Працяг на стар. 4)

**Новыя вершы**

*У кожным з нас жывуць аблокі,*
*Якія ранняю вясной*
*Плывуць, лятуць у шлях далёкі,*
*Нас забіраючы з сабой.*

*Не верыце?*
*А я вось веру.*
*Чакаю — грымне першы гром,*
*І паплывем удалеч з ветрам,*
*З маланак радасным агнём.*

*Успыхнуць светла і нядрэмна*
*Вясковых зорак вугалі.*
*І будуць здзіўленыя дрэвы*
*Махаць галінамі з зямлі.*

**Леанід Дайнека**

## У БОБРЫ ВЯЛІКАЙ

Сельскагаспадарчае прадпрыемства Бобра Вялікая, што належыць да ПГР-у ў Макаўлянах, распалажана на самай паўночнай ускраіне Беластоцкага ваяводства, непадалёк вытокаў ракі Бебжы. Калісьці гэта была „радавая" маёмасць Тамашэўскіх і прасціралася яна на абшары звыш 800 га. От, такі сабе „маёнтачак", даходы з якога дазвалялі ўсім адгалінаваннням памешчыцкага „роду" бесклапотна праводзіць чароўныя вёсны ў Італіі, гарачыя леты на Канарыйскіх астравах, а ў восені і зімы валэндацца па розных там Парыжах, Лонданах ды Берлінах. У тым жа часе парабкоўскія сем'і гнілі ў смярдзючых „чвараках", а эканом вельмі зырка сачыў за тым, каб у парабкаў ды парабчанак гарбы ад працы на панскім пачалі расці не пазней трыццатага года іх жыцця.

Адразу пасля ўстанаўлення народнай улады, большая частка маёнткавага абшару была раздзелена паміж парабкамі, беззямельнымі і малазямельнымі сялянамі з навакольных вёсак, а рэштка — каля 260 га — склала аснову ПГР-у. Пачаткі гаспадаркі не належалі да лёгкіх: аралі, сеялі, гадавалі, але вынікі таго былі, што кот наплакаў — увесь час „ехалі" на стратах.

— Толькі ў 1959/60 годзе мы перайшлі на спецыялізацыю, — прыгадвае **Эдвард Паздэрскі,** які быў 18 год кіраўніком гэтага ПГР-у, а цяпер знаходзіцца ўжо на пенсіі. — Пачалі займацца вырошчваннем збожжа на насенне, гадоўляй быдла расы чырвонай польскай і хатняй птушкі. Але збожжа не адразу шчодрым дажджом сыпнула, у 1959 г. мы сабралі па 16 ц/га збожжа і 130 ц/га бульбы. Толькі праз якіх 15 год нашых намаганняў мы дабіліся 38 ц/га насеннага збожжа, каля 400 ц/га цукровых буракоў, 250 ц/га бульбы і да 1300 ц/га кармавых буракоў. Нарэшце нам удалося належна загаспадараваць 14 га саджалак і завесці ў іх гадоўлю карпа. І так, паволі-паволі мы выйшлі ў людзі, сталі даваць даход ад 300 тысяч да 700 тысяч злотых у год.

Была якраз першая палова жніўня. З пагорка, што ўзвышаецца за колішнім старым „маёнткавым" паркам, відаць, як прасціраюцца пахваляваныя няроўнасцямі мясцовасці вялікія абшары рапаку і ячменю. Па рапаковым полі велічна плывуць „Бізоны", паглынаючы спелыя дародныя сцяблінь, а да іх часценька пад'язджаюць грузавікі і з камбайнавых бункераў плыве струмень зерня. Зараз жа за камбайнамі ідуць падбіральнікі саломы і адвозяць яе на сціртну каля малочнай фермы: на зіму будзе дасканалы падсціл жывёле. За падбіральнікамі спяшаюцца трактары і талеркавымі баранамі ўзрыхляюць поле. Праз гадзіну-дзве на месцы палетка стручастага рапаку чарнее старанна аброблёная ралля.

— Як толькі скончым з рапаком, зараз жа пераходзім да ўборкі ячменю, — кажа новы кіраўнік гаспадаркі ў Бобры Вялікай **Адам Бахэнак.** — Паводле нашых пробных ацэнак ураджай у гэтым годзе, можна сказаць, добры: жыта дало 29 цэнтнераў з гектара, ячменю спадзяемся 32 ц/га, іншае таксама добра сыпле. Цяпер наша гаспадарка мае 370 га ворыўнай зямлі, 24 га лугоў і 40 га пашы. У бягучым годзе на нашых палях вырошчвалася 72 га ячменю, 76 га жыта, 14 га бульбы, 35 га рапаку, 40 га цукровых буракоў, бобавых і розных мяшанак на зялёны корм і квашанку 85 га, ну і крыху іншых засеваў. На ферме ў нас 235 галоў быдла, у тым ліку 73 дойныя каровы, а рэшта — маладняк і ўбойная ялавічына. Найбольшы даход маем з кваліфікаванага насення зерня, малака і ўбойнага быдла. Але без цяжкасцей не

(Працяг на стар. 4)



*„Бізон" на рапаковым полі ў Бобры Вялікай.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Баб'я Гара ● Карэспандэнцыя з Прагі ● „Тыгры" для швейцараў ● Дажынкі ў Боцьках ● Фокусы на пуці Беласток—Белавежа ● Пра Вольгу Мядзведзеву з Гарадка ● Як жывем без паветаў ● У сямейным кругу Марыі Буйко з Новай Волі ● СКР у Васількове ● КГВ у Слабодцы ● Весткі з Ласінкі, Сухавольцаў, Дубіч Царкоўных, Істока, Галадоў, Тарнопаля, Гайнаўкі, Бельска ● Калі сніцца яблыня ● Песня „W świetle nocy, w mroku dnia".**

ШТО НОВАГА?

# Чаму пусцее ПАРЫЖ?

Пад дахамі Парыжа шмат таямніц. Пра іх пішуць у раманах, паэмах, вершах і... афіцыйных дакументах.

Адну з такіх таямніц расказаў нядаўна парыжскі муніцыпалітэт у сваёй статыстычнай справаздачы. Як высветлілася, зніклі 300 тысяч парыжан. Не адразу, а за апошнія сем гадоў. І працягваюць знікаць па 120 чалавек у дзень. „З'ява — зусім беспрацэдэнтная за ўсю шматвяковую гісторыю французскай сталіцы, — канстатавалі гарадскія ўлады. — Яна распаўсюдзілася практычна на ўсе 20 раёнаў Парыжа і большасць сацыяльных слаёў насельніцтва.

Гэта чарговая „парыжская экстравагантнасць“ выклікала самыя розныя каментарыі і чуткі. Буржуазныя журналісты прыклалі нямала намаганняў да таго, каб растлумачыць уцёкі з Парыжа „праблемай Эйфелевай вежы“, г.зн. паказаць справу такім чынам, што, маўляў, парыжане не задаволены архітэктурным развіццём горада, засіллем аўтатранспарту на яго вуліцах, інтэрнацыяналізацыяй самога ладу жыцця старадаўняй французскай сталіцы, страта сапраўдных гальскіх традыцый. Безумоўна, у нечым яны маюць рацыю.

Не задаволены не толькі прыхільнікі архітэктурнай непаўторнасці Парыжа, аматары старажытнасці, але перш за ўсё тыя, чыё жыллё было знесена на 160 гектарах (для сучаснага горада плошчы велізарнай) у імя збудавання небаскробаў са шматлікімі бюро і канторамі „вялікага бізнесу“. Так многія тысячы парыжскіх сем'яў пазбавілі даху практычна без усялякіх надзей набыць яго ў родным горадзе зноў... за падыходзячую плату.

Словам, не новаўвядзенні ў будаўніцтве горада самі па сабе і нават не масіраванае наступленне шматпавярховых офісаў, якія належаць канцэрнам, на жылыя раёны вымушаюць гараджан пакінуць абжытыя месцы. На першым плане вось ужо каторы год, як вынікае з пытанняў праведзеных муніцыпалітэтам, камунамі, прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, — няўхільны і хуткі рост платы за кватэру, электрычнасць, ваду і іншыя камунальныя паслугі. Так, паводле даных нацыянальнай канферэнцыі кватэранаймальнікаў — НКК, рост квартплаты паасобных раёнаў Парыжа за апошні год склаў ад 40 да 70 працэнтаў, ацяпленне каштавала жыхарам у 1974 годзе на 50 працэнтаў даражэй, чым у папярэднім, а са студзеня 1975 года — яшчэ на адну трэць.

Даўно вядома, і не толькі на вуліцы Мантэра, дзе знаходзіцца НКК, што плата за жыллё складае львіную долю даходаў сям'і сярэдняга працоўнага, не толькі ў НКК вядзецца ўлік шматлікіх выступленняў супраць сквапнасці домаўладальнікаў і бяздзейнасці ўлад. Зарэгістравана афіцыйна 250 тысяч сем'яў, якія маюць вострую патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

І яшчэ адзін штрых з сённяшняга жыцця Парыжа. Да тых, хто супрацiўляецца спекулятыўным намерам уладальнікаў нерухомасці, у адпаведнасці з заканадаўствам могуць прымяняцца адміністрацыйныя меры — насільнае высяленне без прадастаўлення жылля. Кампанія выгнання, праводзімая ўладамі ў інтарэсах „грашовых мяшкоў“, набыла, можна сказаць, планавы характар. Так, у 1976 годзе ў Парыжы прадугледжана правесці 15 тысяч такіх акцый. Колькасць выкінутых на вуліцу — кандыдатаў у былыя парыжане — узрасце яшчэ і таму, што гарадскія ўлады пачалі „з санітарнай мэтай“ зносіць пояс хацін. Безумоўна, жамчужына Францыі — Парыж не варты такой аправы, але размова ідзе не толькі аб прэстыжы, а таксама аб лёсе многіх тысяч сем'яў.

**М. Паўлаў**





*У зале лячэбнай гімнастыкі.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

## Цэнтр спецыялізаванай медыцынскай дапамогі

На ўскраіне горада Магілёва ў адным з маляўнічых куткоў сасновага бору, якімі багата Беларусь, у 1971 годзе закончана будаўніцтва сучасных прыгожых будынкаў абласной бальніцы. У ёй — 21 спецыялізаванае аддзяленне для аказання высокакваліфікаванай спецыялізаванай медыцынскай дапамогі насельніцтву вобласці.

Усе аддзяленні і лабараторыі абсталяваны сучаснай апаратурай, укамплектаваны кваліфікаванымі спецыялістамі. У бальніцы больш 60 працэнтаў жыхароў сельскіх раёнаў вобласці атрымоўваюць кваліфікаваную спецыялізаваную медыцынскую дапамогу.

Акрамя медыкаментознага лячэння шырока прымяняецца электра-, светла-, гразе- і водалячэнне, іглатэрапія і масаж.

Асаблівай увагай ахоплены маці і дзеці. Для аказання кваліфікаванай медыцынскай дапамогі цяжарным са спадарожнымі хваробамі створана аддзяленне паталогіі цяжарнасці. Лекары з гэтага аддзялення маюць весткі аб цяжарных жанчынах з дадатковымі хваробамі з населеных пунктаў усёй вобласці і вядуць планавую гаспіталізацыю для аздараўлення і шчаслівых родаў. Гэта дало магчымасць значна абнізіць мацярынскую і перынатальную смяротнасць.

Існаванне высокакваліфікаваных кадраў і добрае абсталяванне дазволіла бальніцы стаць вядучай лячэбнай установай вобласці. У сувязі з гэтым у бальніцу паступаюць з усяе вобласці найбольш цяжка хворыя або тыя, каму неабходна правесці складаныя дыягнастычныя абследаванні.

У бальніцы створаны кардыёрэўматалагічны і эндакрыналагічны цэнтры, якія арганізуюць і вядуць прафілактычную і лячэбную дзейнасць па выяўленню і аздараўленню хворых.

Вялікі аб'ём кансультацыйнай медыцынскай дапамогі насельніцтву аказвае паліклініка. Прыём у паліклініцы вядзецца па 32 розных спецыяльнасцях. На час абследавання, калі ёсць такая патрэба, хворых размяшчаюць у пансіянаце, арганізаваным пры бальніцы. Гэта стварае асаблівую выгаду для хворых, якія прыязджаюць з аддаленых ад абласнога цэнтра раёнаў.

Бальніца аказвае метадычную і кансультацыйную дапамогу лячэбным установам вобласці. Спецыялісты ў планавым парадку кансультуюць хворых ва ўсіх бальніцах вобласці. У любы час сутак ў выпадку патрэбы лекары выязджаюць у населеныя пункты вобласці для аказання хуткай спецыялізаванай дапамогі. Для гэтага ёсць аўтамабільны транспарт, санітарныя самалёты і неабходнае абсталяванне.

Бальніца з'яўляецца базай для павышэння кваліфікацыі практыкуючых лекараў вобласці і падрыхтоўкі выпускнікоў медыцынскіх інстытутаў. Арганізаваны цэнтр навукова-медыцынскай інфармацыі і медыцынская бібліятэка на 12 тыс. тамоў. Усё гэта спрыяе павышэнню кваліфікацыі не толькі спецыялістаў бальніцы, але і іншых медыцынскіх устаноў вобласці.

**К. Бахановіч**
галоўны лекар бальніцы.



*Кісларoдны кювет „Малютка“ для слабых і неданошаных навародкаў.*

### § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: А. праязджае праз пасбішча В. да сваёй зямлі. Існуе даезд да дзялянкі палявой дарогай, але ён амаль на 0,5 км даўжэйшы. На пасбішчы ніякай, нават палявой дарогі няма. В. абгарадзіў сваё пасбішча і гэтым спосабам спыніў праезд да дзялянкі А., які з незапамятных часоў карыстаўся праездам па пасбішчы В. (Яшчэ перад вайной ездзіў тудою яго бацька). Ці можа А. патрабаваць, каб В. не перашкаджаў яму карыстацца праездам праз пасбішча?

АДКАЗ: Фармальна беручы, калі хтонебудзь карыстаўся праездам праз чужую зямлю, яе ўласнік не можа самавольна пазбавіць яго гэтай магчымасці. Таму, каб А. звярнуўся ў суд з патрабаваннем вярнуць яму магчымасць праезду, ён справу выйграў бы. Аднак, калі б уласнік з свайго боку выступіў у суд з патрабаваннем забароны праезду праз яго зямлю, суд вымушаны быў бы забараніць А. праезд. На перашкодзе гэтаму не стаяла б тое, што А. і нават яшчэ яго бацька карысталіся праездам. Аб набыцці сервітуту праезду не можа быць мовы, паколькі гэта магчыма толькі ў выпадку, калі на праездзе існуюць трывалыя ўладжанні, напрыклад, прыдарожныя равы або брук. У нашым выпадку не было нават ідавочнай палявой дарогі. В. мог бы ў гэтым выпадку забараніць судом праезду, нават тады, калі б А. не меў іншага праезду да сваёй дзялянкі.

### TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 18.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Mat. 6.30 Biolog. 8.35 To jeszcze nie miłość — film fab. NRD. 10.00 Dla najmł. (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 11.05 Dla szkół (kl. VIII) Geogr. Afryka półn. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.15 Up. rośl. 14.45 Red. Szk. zap. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Pr. dnia. 15.15 Pięć pytań o Rumunii — quiz. 15.45 Dla dzieci. 16.10 Dzien. 16.20 Obiektyw. 16.40 Za kierownicą. 17.00 Sobota Mł. 17.55 P. nożna: GÓRNIK — LEGIA. 18.50 Śpiewa Nicolette (Francja). 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Arabeska — film fab. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 22.35 Wszystko dla pań.

☆

**Niedziela 19.IX.** 6.15 Tech. Rol. Fiz. 6.45 Up. rośl. 7.15 Kurs. Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszystkich. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Komicy niemego ekranu — film arch. ang. 11.35 Kraj złota i słońca — Montania — film dok. 12.10 Dzien. 12.30 TYLKO W NIEDZIELĘ. 12.35 25 klatek na sekundę. 13.00 Piosenki naszych programów. 13.10 Zwiedzaj razem z nami — rep. cz. I. 13.20 Araby, araby — rep. 13.50 Zwiedzaj razem z nami — cz. II. 14.00 Pr. dla dzieci. 14.30 Zwiedzaj razem z nami — cz. III. 14.40 Za i przed progiem — rep. cz. I. 14.55 Druż. mistrz. świata na żużlu (I). 15.05 Zwiedzaj razem z nami cz. IV. 15.15 Los. Duż. Lot. 15.30 Sport (2). 15.40 Na kogo popadnie. 16.10 Sport (3). 16.20 Za i przed progiem cz. II. 16.35 I ty możesz zostać artystą. 16.55 25 klatek na sekundę. 17.10 Spotkanie z... 18.05 Propozycje. 18.25 Pół żartem, pół serio. 19.15 Wiecz. 19.30 Dzien. 20.15 Bajka dla dor. 20.30 Nagie miasto — film fab. USA. 22.05 Pr. rozr.

☆

**Poniedziałek 20.IX.** 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. J. pol. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.10 Po prostu życie — film ser. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV. 22.10 XYZ cz. II. 22.40 Dzien.

☆

**Wtorek 21.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. J. pol. 6.30 Tech. Rol. Mech. rol. 9.00 Dla szkół (kl. I lic.) J. pol. Sofokles. Antygona. 10.00 Dla najmł. Czerw., żółte, ziel. 10.10 Nagie miasto — film fab. USA. 12.55 Dla szkół śred. Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Tech. Rol. Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pr. publ. 17.25 Śpiewa E. Kamburowa. 17.45 Fakty, op., hip. 18.25 Studio Mł. 19.15. Przyp. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Być kobietą — film fab. radz. 21.50 Świat i Polska. 22.35 Dzien. 22.50 Wieczorne serenady.

☆

**Środa 22.IX.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Mech. rol. 10.00 Być kobietą — film fab. radz. 12.00 Dla szkół (kl. VIII) Chem. 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Chem. 14.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Lektury Peg. 18.00 Godzina Zespołu „GAWĘDA”. 18.55 Bajkał — rep. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Filmy Bergmana: Kobiety czekają. 22.10 Dzien. 22.25 Sport.

☆

**Czwartek 23.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Chem. 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 12.55 Dla szkół (kl. I—IV lic.) J. pol. Bajka. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.15 Poligon. 18.45 Pr. publ. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Columbo — film ser. 21.50 Pegaz. 22.35 Dzien.

☆

**Piątek 24.IX.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół (kl. V) Geogr. Przez lądy i oceany. 10.00 Po śmierć dzwonić raz — film fab. ang. 11.05 Dla szkół (kl. VII) Wych. ob. 12.00 (kl. VII) Geogr. Obszary bezodpływ. Azji. 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Mat. 13.25 Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Dla mł. widzów: Skrzydła. 18.00 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Pr. film. 21.10 Żywoty instrument. 22.10 Teatr Małych Form: W. Terlecki — Herbatka z nieobecnym.

### ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 17.IX** — 8.15 Spektakl TV. 9.15 Śpiewa i tańczy młodość. 13.30 Film fab. 16.55 Ameryka. 17.25 Film. fab. 19.30 Pr. estrad. 20.30 Filmy anim. dla dor. 20.55 Sport.

**Sobota 18.IX.** — 8.30 Koncert estrad. 21.25 Śpiewa P. Lisicjan. 11.30 Koncert. 12.15 Film fab. 15.25 Filmy anim. 16.15 Nie do wiary. 17.05 Gra Ł. Sniegiriewa. 17.30 Film fab. 19.30 Hokej.

**Niedziela 19.IX** — 11.30 Koncert. 12.00 Film fab. 15.20 Cyrk. 16.15 Filmy anim. 16.45 Piosenka — 76. 17.10 Filmy z Chaplinem. 18.00 Klub film. 19.30 Wielka ork. symf.

### КІНО

**Białowieża** Kochankowie roku pierwszego — czes. 21—22, Britania w niebezpieczeństwie — ang. 23—24. Człowiek z Masinicu — kub. 25—26.

**Gródek** Mgła nie ukryje zdrajcy — rum. 25—26.

**Kleszczele** Ściana — rum. 21—22. Pies za burtą — radz. 23—24. Linia — pol. 25—26.

**Michałowo** Miłość szesnastolatków — NRD 21—22. Dzień szakala — ang. 23—24. Czarodziejskie dary — NRD 25—26.

**Mielnik** Ostatni wiosenny śnieg — wł. 21. Zorro — wł. 25—26.

**Narew** Pułapka — pol. Motyle — pol. 22—26.

**Nurzec** Prywatny detektyw — ang. 21—22. Hallo taxi — NRD 23—24. Zorro — wł. 25—26.

B.Z.Graf. Zam. 2049 F-4.

# 20 гадоў карыснай працы

Даволі часта ўзнікаюць пажары на вёсцы. Агонь знішчае набытак не толькі гадоў, але і некалькіх пакаленняў. Між іншым таму жыхары вёсак арганізуюць у сябе добраахвотныя пажарныя каманды, будуюць супрацьпажарныя басейны і стражацкія рамізы. Асабліва на Гайнаўшчыне, дзе 40 працэнтаў усёй плошчы — гэта лясы, ды ёсць яшчэ шмат будынкаў, пакрытых саломай.

Добраахвотная пажарная каманда (ОСП) у Старым Ляўкове, гміна Нараўка, дзейнічае ўжо 20 гадоў. Згуртоўвае яна ў сваіх радах больш дваццаці чалавек. Складаецца з трох секцый: ратаўнічай, вогнетушыльнай і рэзервовай. Працай стараляўкоўскай ОСП кіруе начальнік Ян Адамюк. Пажарная каманда праводзіць практычныя заняткі, удзельнічае ў спаборніцтвах з іншымі камандамі, выконвае шмат працы грамадскім чынам. Члены ОСП у Ляўкове пабудавалі гараж, у якім знаходзіцца машына і супрацьпажарныя прылады. Яны таксама ўпарадкоўваюць супрацьпажарныя басейны ў суседніх вёсках.

Актыўнымі пажарнікамі з'яўляюцца Ян Адамюк (начальнік стараляўкоўскай ОСП), Аляксандр Адамюк, Аляксей Харкевіч, Мікалай Пташынскі, Ян Марчук, Пётр Бірыцкі, Юрка Бартошук, Анатоль Ляшчынскі, Леанід Максімюк, Аляксандр Бандарук, Ян Рэнт, Пётр Карпюк і іншыя.

Усе яны ўдзельнічалі пры гашэнні шматлікіх пажараў лесу, хат і стадолаў. Сёлета чатыры разы гасілі яны пажар у лесе ў сваёй гміне і ў ваколіцы Валілаў-станцыі. Многія з ляўкоўскіх пажарнікаў за самаахвярнасць у выкананні сваіх абавязкаў узнагароджаны медалямі „Прыкладны пажарнік", „За заслугі для пажарнай справы", а таксама медалямі 10-годдзя, 15-годдзя і 20-годдзя пажарнай службы.

Сёлета пажарнікі са Старога Ляўкова святкуюць свой юбілей — 20-годдзе дзейнасці.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**

*Аляксей Харкевіч заводзіць мотапомпу.*



*„Сямейны" здымак ляўкоўскіх пажарнікаў. Злева направа: Ян Марчук, Аляксандр Адамюк, Аляксей Харкевіч, Ян Адамюк (начальнік ляўкоўскай ОСП), Пётр Бірыцкі, Мікалай Пташынскі, Юрка Бартошук.*



*Кадр з заняткаў пажарнікаў.*

# Беларускія кнігі

У „Доме кнігі" ў Саколцы, вул. Беластоцкая 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Для ўсіх школ прапануем набыць ніжэй названыя падручнікі па спевах. Яны — дасканалая крыніца рэпертуару беларускіх і рускіх дзіцячых песень, якія з прыхільнасцю сустрэнуць і юныя выканаўцы і слухачы.

**Бабенка Л.,** Спевы, другі клас, 1971, цана 6 зл. 60 гр.

**Бараноўская А. І., Мартынюк Я. І.,** Спевы, трэці клас, 1971, цана 6 зл.

**Грамыка Я. А., Журэвіч У. В.,** Спевы для IV класа, 1971 цана 7 зл.

**Лынькоў Міхась,** Міколка-паравоз, 1971, стар. 184, цана 7 зл. 60 гр.

Дасканалая прыгодніцкая аповесць для дзяцей і юнацтва. Гэтае выданне аздоблена каляровымі ілюстрацыямі, якія яшчэ больш уяўна прадстаўляюць чытачу незвычайныя прыгоды і подзвігі Міколкі і яго дзеда.

**Багдановіч Максім,** Маладзік, 1968. стар. 292, цана 7 зл. 50 гр.

Невялікага памеру том лірыкі нашага самага выдатнага паэта пачатку XX стагоддзя. У зборнік увайшлі лепшыя творы паэта.

**Багдановіч Максім,** *Альбом-выстаўка ў школе, жыццё і творчасць,* 1968, цана 3 зл. 80 гр.

Вельмі карыснае выданне, якое прадстаўляе сабою выстаўку пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча. Задрукаваны толькі адзін бок старонак і гэта дазваляе рабіць з выдання выстаўку. У кожнай школе, дзе выкладаецца беларуская мова, павінна знайсціся гэтае выданне дзеля скарыстання яго на выстаўку ў класе-кабінеце беларускай мовы.

**Лобан М. П., Суднік М. Р.,** Арфаграфічны слоўнік, 1971, стар. 302, цана 3 зл. 60 гр.

Асноўны дапаможнік пры навучанні роднай мовы! Трэба толькі набыць столькі экземпляраў слоўніка, колькі ёсць вучняў у найбольшым класе. Тады ён можа быць вельмі карысным матэрыялам для рознага роду практыкаванняў па арфаграфіі ў класах III-VIII. Апрача гэтага добра, каб слоўнікам абзавяліся ўсе вучні, што вывучаюць родную мову!

Кнігарня ў Саколцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем з далучэннем фактуры (рахунку), калі гэтага пажадае пакупнік. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki". 16-100 Sokółka, ul, Białostocka 10.

(мг)

# Больш творчай фантазіі

Паявілася ў Мінску кніжка наступнага „белавежца", на гэты раз Віктара Шведа зборнік вершаў для малодшых дзяцей „Дружба"*.

Друкарства ў Беларусі стаіць, несумненна, на высокім узроўні. І хоць гэтая кніжка выдадзена якраз даволі сярмяжна, то ўсё ж такі яе ўвесь 50.000 тыраж мог бы лёгка разыйсціся ў нас**. І перш за ўсё таму, што кніжак для дзяцей усюды і заўсёды было замала, а ў нас да гэтага часу і таго горш, бо на беларускай мове не было ніякіх. Пасля чорна-белых і тоўста-„акадэмічных" бэгакатоўскіх выданняў, кніжка В. Шведа напэўна прыцягне да сябе ўвагу маленькага чытача, што не без значэння, не толькі „сшыткавым аб'ёмам", але і багаццем сваіх каляровых ілюстрацый, якія разам з тэкстамі вершаў ствараюць непаўторную сінкрэтычную крыніцу ўздзеяння на ўяўленне маладога чалавека. К таму ж прозвішча старэйшага паэтычнага мэтра Беласточчыны карыстаецца здаровай папулярнасцю як сярод старэйшых жыхароў вёсак, так і ў школьным асяроддзі. Мне не раз даводзілася бачыць на аўтарскіх сустрэчах, з якім унутраным перажываннем слухае дзетвара самога паэта, чытаючага ім свае сатырычна-гумарыстычныя вершы, якіх В. Швед ніколі не даштукоўваў у вёсках ні вучона-сталічнай ватай, ні „паэтычнай" позай ці мімікай, не прыгнятаў сваім талентам, ілюзорную вартасць якога ён аж надта добра ведае, як мне здаецца. Вось гэтая аўтарская непасрэднасць і зычлівасць у адносінах да сваіх слухачоў, а ў перспектыве і да чытачоў, вяртаецца да яго заўсёды памножаная праз дзесяткі дзіцячых шчырых і даверлівых позіркаў. В. Шведу, як чалавеку, на колькі я ведаю яго, характэрная выключная дабрата як рэдкая эмацыянальная і лагічная паслядоўнасць яго ў самым высакародным значэнні слова наіўна-паэтычнага светапогляду. І гэтая іменна рыса, якую ён здолеў захаваць і чым шчодра дзеліцца з намі напоперак уласнай незайздроснай біяграфіі і як жа іншым тэндэнцыям ў сацыяльным развіцці чалавека, якраз і канструуе яго як пісьменніка для дзяцей in spe, чый свет яму надалей застаецца блізкі і зразумелы.

Кніжка нараджалася доўга. І таму паявілася спозненая прынамсі на гадоў дзесяць-пятнаццаць. Дзяцінства вясковых дзяцей цяпер ёсць несумненна іншае, чымсьці было яно на пачатку 60-х гадоў. Тады сапраўды дым з коміна хаты мог яшчэ асацыявацца з дымам з паравоза, тады напэўна дамінавалі яшчэ ў беларускіх вёсках рускія печы, на якіх спалі не толькі бабкі, сенсацыяй было таксама радыё. Цяпер вершы аб гэтым чытаюцца ўжо як дакумент мінулай эпохі, літаратурнай таксама. Але аб гэтым гаварыць, гэта гаварыць аб амаль тыповым, з невялікімі, хоць што-праўда выразнымі выключэннямі, беларускім складзе мыслення, якому характэрна цягнуцца ззаду за чытачом, паэтызаваць атрыбуты аджыўшага, змагацца так, як у ананімнай паэме XX-га ст. „Лысая гара". Ох, гэтыя мне падручнікі элементарных ведаў, гэтая прапаганда паэзіі з бабулькамі на печцы і дыму з хаткі! Ці ж гэтыя з'явы, калі сям-там і выступаюць, уласцівыя нам у сямідзесятых гадах?

Зусім нядаўна зразумеў я, чаму нашае літаратурнае асяроддзе і т.з. інтэлігенцкае ад дваццаці гадоў, як хворы малярыяй, трасецца ад бяссілля і анэміі. Таму, што над асяроддзем гэтым вісіць між іншым дэспатызм аўтарытэтаў. Зразумела, фальшывых, гмінных ідалаў, якіх нельга тыкаць пальцам. Пакрытыкуеш — і будзеш баяцца адзін вечарам вуліцай хадзіць.

Парафразуючы вядомую пасловіцу хочацца сказаць: у сваім краі быць прарокам цяжка. Цяжка і сумна, калі няма ніякай культуры дыспуту, калі няма арганічнага абмену інфармацыі і поглядаў.

Але хто не разумее, што жыццё літаратурнага крытыка, як каскадэра, складаецца не толькі з эфектных дасягненняў і сальтаў, але таксама з рызыка, пралікаў і памы-

(Працяг на стар. 5)

# З рэпарцёрскіх запісак

## Вяселле ў Козліках

Нядаўна запрасілі мяне ў вёску Козлікі (Заблудаўская гміна) на вяселле. Адзін з тутэйшых гаспадароў выдаваў замуж ужо трэцюю дачку. Гасцей назбіралася каля сотні, а можа і больш, бо ледзь змясціліся ў чатырох пакоях прасторнай хаты.

* ✻ *

З багатага вясельнага абраду не засталося тут амаль ужо нічога. Замест традыцыйнага каравая, які цырыманіяльна пякуць у суботу, а ўрачыста дзеляць пад канец вяселля, у час так званага „перапівання", на сталах стаялі тут вялікія торты, родам з кандытарскіх магазінаў у Беластоку.

І толькі па-даўнейшаму сталы аж гнуліся ад цяжару дасканала падрыхтаваных страў і закусак. Вяселле ў нашых вёсках заўсёды рыхтавалася так, каб гаспадар змог паказаць усяму наваколлю сваё багацце.

Калі ўжо маладыя пайшлі выкручваць свае „чачы" і „рокантролі", тады астаўшыеся за сталамі старэйшыя цёткі і дзядзькі, разагрэтыя высокапрацэнтавымі напіткамі, пачуліся свабадней і згодна зацягнулі на пачатак несмяротную „Кацюшу", а пасля паплылі „Выпрагайце хлопцы, коней", „Шумел камыш", „Алёнка" і іншыя папулярныя па ўсёй Беласточчыне застольныя песні.

Танцаваць прыйшлося пад гукі пяціасабовага аркестра, узмоцненага яшчэ двума магутнымі рэпрадуктарамі. Гэта таксама ўжо гарадская прывіўка да вясковага абычаю.

Што ж, змяняецца час, і змяняецца абычай. Да шлюбу маладыя і маладая абавязкова адпраўляюцца цяпер на таксоўках, а іх госці — у аўтобусе, калі, вядома, не маюць уласных аўтамабіляў. Такіх змеханізаваных гасцей з'ехалася ў Козлікі даволі многа.

Калі маладажоны вярталіся ад шлюбу, дарогу ім у Козліках перагарадзілі жэрдкаю. Неабходна было выкупіцца дзвюма паўлітроўкамі і парадачным кальцом каўбасы. А найдзіўнейшае ў гэтым было тое, што тутэйшымі фокуснікамі аказаліся галавусыя дзецюкі, бо найстарэйшаму з іх было не больш 15 гадоў. Позным вечарам гэты найстарэйшы, ужо зусім ап'янелы, прыплёўся на гульні і моцна надакучыў усім гасцям, а найбольш дзяўчатам. Хацеў усіх абцалаваць. І мяне таксама.

Каля поўначы пачалося „перапіванне". Стары гэта абычай. Выводзіцца ён, здаецца, з тых колішніх галодных гадоў, калі сваякі, запрошаныя на вяселле, скромнай скідкай (па прынцыпу *„З міру па нітцы і голаму кашуля"*) намагаліся аблегчыць пачатак новага супольнага жыцця маладажонам. У маёй роднай вёсцы гэтай цырымоніі спадарожнічаў менавіта ўрачысты падзел каравая. Пры гэтай нагодзе дружкі кожнага госця прывіталі задзёрнай прыпеўкай і весела абтанцавалі.

Асноўны сэнс „перапівання" — дапамога маладым — захаваўся і цяпер. Толькі вось у Козліках не хапала і каравая, і гэтай своеасаблівай абрадавай, міфічнай атмасферы. Тут была звычайная празаічная скідка для маладых. Пры гэтым назіралася выразнае спаборніцтва: хто больш? Паперкі з многімі нулямі густа кладліся на талеркі. Ніжэй сотні ніхто не сыходзіў. Найчасцей паўтараліся 500 і 1000-злотавыя.

Тут відаць было, як мы пабагацелі.

Калі моладзь — дзяўчаты і хлопцы — памяшаліся паміж сабой у супермодным сучасным танцы, нельга было адрозніць, хто тут з вёскі, а хто з горада. Сярод старэйшых, спрацаваных людзей розніца яшчэ заўважаецца, а моладзь ніяк не пазнаеш. Аднолькава багата і модна апранутыя, у дзяўчат такія ж прычоскі і сукенкі, у юнакоў — аднолькавая смеласць і ўпэўненасць у паводзінах.

Тут, як у лабараторыі, наглядаць можна было за праявамі раўнання ўзроўню і форм жыцця ў горадзе і ў вёсцы.

**В. Рудчык**

 

# У Бобры Вялікай

(Працяг са стар. 1)

абыходзіцца: не хапае нам людзей да працы. Ахвотных прыступіць да работы ёсць, але мы не маем кватэраў. Уведзеная ва ўсім ПГР-ы Макаўляны брыгадная сістэма працы крыху аблягчае праграму, бо машыны роўным фронтам пераходзяць з прадпрыемства ў прадпрыемства — туды, дзе якраз ёсць работа. Але аснову нашага працоўнага калектыву ў Бобры складаюць людзі, якіх бацькі тут працавалі і яны працуюць, шануючы сваё прадпрыемства і дбаючы пра яго. Найлепшыя сярод іх: старшы трактарыст **Серафін Чарапахін**, трактарыст-камбайніст **Зыгмунт Эльяшук**, шафёр **Юзаф Стручэўскі**, даярка **Леакадзія Барадзюк**, работніца пры маладняку і ялоўніку **Леакадзія Мікалайчык** і **Галіна Лайкоўская**, што працуе на свіной ферме, а таксама шмат іншых.

У той дзень, калі мне давялося наведаць прадпрыемства ў Бобры, прыехаў сюды дырэктар насеннай цэнтралі з Саколкі **Станіслаў Пагажэльскі**, каб сваім вокам „на пню" агледзець матэрыял, які паступае і яшчэ паступіць у элеватары ягонага прадпрыемства.

— Увесь ПГР Макаўляны, у тым і Бобра, пастаўляе добрае насенне, — заўважыў ён. — У бягучым годзе асабліва прыгожы ячмень „Арамір" і жыта „Данькоўскае", не ўступае ім і авёс. Аж прыемна глянуць і на належна дагледжаныя палеткі і на зерне з іх. Спадзяемся таксама атрымаць з гэтага ПГР-у каля 200 тон насеннай бульбы „Уран" і „Баца". У замен мы даем ПГР-у послед і іншыя карысныя ў гаспадарцы адпадкі, якія ідуць на корм жывёле.

Наша размова з дырэктарам ПГР-у ў Макаўлянах інж. мгр **Станіславам Гадлеўскім** датычыла будучыні прадпрыемства ў Бобры, а таксама Макаўлянаў.

— Увесь час, — сказаў ён, — будзем звяртаць асаблівую ўвагу на вырошчванне насеннага збожжа, цукровых буракоў для завода ў Лапах і рапаку. У гадоўлі плануем выспецыялізаваць Бобру ў вырошчванні маладняку, у 1977/1978 гадах пачнем тут будаваць спецыяльную ферму для 600 штук ялошак, якія павялічаць наш малочны статак і пойдуць таксама ў іншыя гаспадаркі. Наш ПГР з кожным годам разрастаецца за кошт зямлі, што здаюць сяляне за пенсію. У бягучым годзе мы прынялі звыш 600 га, Бобра ў тым ліку — 62 га, а да 1978 года нам прыбудзе сама меней 2 000 га. І не скажу, каб ад гэтага прыбытку сон у мяне быў спакайнейшы. Гэтая зямля знаходзіцца ў невялічкіх кавалачках, а нашыя землярабочыя машыны вялікія, ім на гэтых лапінах вельмі цяжка працаваць. Ды і паступае нам зямля запушчаная і занядбаная, што часам трыццаць год плуга не бачыла. На ёй бярэзнік ды асіннік таўшчынёй у мужчынскую руку вырас. Кошты загаспадаравання гэтай зямлі складаюць ад 20 да 5 тысяч на гектар. Але працуем мы ў гэтым напрамку поўнай парай. Нельга ж дапусціць, каб зямля аблагавала...

Калі я развітваўся з Бобрай Вялікай, чырвоныя прыгажуны „Бізоны", закончыўшы ўборку рапаку, ужо ўрэзваліся ў серабрысты абшырны палетак спелага ячменю.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**

# Згодна з пульсам жыцця

(Працяг са стар. 1)

**„Ніва"**: Якія асноўныя функцыі імкнецца выконваць газета?

**Тав. Я. Соха:** Перш за ўсё праз нашу газету ПАРП вядзе дыялог з усім грамадствам рэгіёну. Газета інфармуе пра заданні, якія ставіць партыя перад грамадствам і якім чынам намерваецца ажыццяўляць іх. Наша газета — гэта трыбуна абмену вопытам у партыйнай рабоце, адзін з важных сродкаў фармавання грамадскай думкі згодна з праграмай партыі. Яна гуртуе грамадскія сілы да вызначаных партыяй заданняў. Ажыццяўляем мы гэта шляхам паказу перадавых калектываў і людзей, а таксама вастрыём крытыкі, накіраванай супраць адмоўных грамадскіх з'яваў. Гэтай мэце служыць таксама інфармацыйная, рэпартажная, публіцыстычная і арганізацыйная дзейнасць газеты. Яна праводзіла і праводзіць мноства розных грамадска карысных конкурсаў і мерапрыемстваў. А ў бягучым годзе з'яўляецца суарганізатарам трох вялікіх урачыстасцей: свята „Сучаснай газеты" ў Ломжы ў месяцы чэрвені, у ліпені ж прысвечанага ёй вялікага фестыну ў Сувалках і цяпер, у гонар свайго 25-годдзя, урачыстага фестыну ў Беластоку.

**„Ніва"**: Якія дзялянкі жыцця нашага рэгіёну не знаходзяць яшчэ, паводле вас, належнага адлюстравання на старонках „Сучаснай газеты"?

**Тав. Я. Соха:** Шмат яшчэ трэба нам зрабіць дзеля ўдасканалення паказу людзей працы. Абяцаем сабе ўсебаковы і глыбокі аналіз праблем хутка развіваючагася рабочага класа. Зразумела, што ў нашых трох ваяводствах неабходна многа ўвагі прысвячаць справам прагрэсу і пераўтварэнням ў сельскай гаспадарцы. Між іншым, вымагае шырокага абмеркавання праблема функцыянавання гмінаў і шэраг іншых спраў. Мала мы зрабілі і ў напрамку актывізацыі літаратурнага руху ў нашым рэгіёне. Зрэшты, жыццё такое багатае, што кожны дзень ставіць перад намі новыя справы. Крыніцай жа інспірацый для нас і мабілізуючай сілай для ўсё лепшай працы з'яўляюцца зацікаўленні і запатрабаванні нашых чытачоў.

**„Ніва"**: А што пераважае ў іх лістах у рэдакцыю?

**Тав. Я. Соха:** На працягу мінулых 25 год змест лістаў ад чытачоў змяніўся карэнным чынам. Зменшылася колькасць скаргаў, спраў асабістых і дробязных, а павялічыліся выказванні аб грамадскіх праблемах, допісы з клопатам пра сваю фабрыку, горад, мястэчка, вёску. Але прыходзяць таксама лісты, у якіх чытачы выкрываюць злачынствы, марнатраўства, занядбанні. Лісты, — гэта багатая крыніца матэрыялаў, якія набліжаюць газету да жыцця. Пішуць іх цудоўныя людзі — карэспандэнты з горадоў, мястэчак і сёлаў. Яны дапамагаюць нам трапна планаваць нашую дзейнасць і быць заўсёды ў гушчы жыцця, а гэта асноўная справа для газеты.

**„Ніва"**: З якімі намерамі ўступае „Сучасная газета" ў наступнае сваё чвэрцьвечча?

**Тав. Я. Соха:** Будзем і далей дасканаліць нашу газету, каб была яна верным прыяцелем чытачоў і неадлучным іх спадарожнікам у штодзённай працы і жыцці. Па меры нашых магчымасцей і ўмення будзем актыўна ўдзельнічаць у ажыццяўленні праграмы партыі для дабра нашага рэгіёну.

**„Ніва"**: Ад шчырага сэрца жадаем вам і ўсяму рэдакцыйнаму калектыву „Сучаснай газеты" поўнага выканання вашых намераў і вялікага задавальнення з вашай плённай дзейнасці.

**Гутарыў Мікалай Гайдук**

# Хіба што верталётамі...

Калі рэч ідзе пра шашу, што вядзе з Бельска Падляшскага праз Нараў у Беласток, дык іншага выхаду няма. Некаторыя, праўда, дык ўжо і ўзрадаваліся. А калі над хатамі паблізкіх вёсак паявіўся самалёт, які даволі часта пачаў лётаць туды і назад, аж падскочылі ад радасці:

— Ну зажывем!

Але гэта проста непаразуменне. Гэта зусім нешта іншае. Самалёт жа абсалютна не пасажырскі, а сельскагаспадарчага прызначэння і дадзены з той мэтай, каб на палеткі ПГР-аў мінеральныя ўгнаенні рассяваць, а не людзей з Бельска ў Кленікі ці Тынявічы вазіць. Так што дарэмная ўцеха.

Але не гэта найважнейшае, і не тут галоўная небяспека скрываецца. А бяда вось у тым, што Раённае праўленне мясцовых дарог трапіла ў гэты летуценны невад, і так яму спадабаліся гэтыя казачныя ўяўленні, што нават пальцам не кіўне, толькі на верталёт спадзяваецца. А на шашы калдобіны растуць усё новыя ды новыя. І наша тэхніка, як не цягнецца, а да дарог усё прыстасавацца ніяк не можа. Усё машынамі ды маторамі мусім ездзіць, а не то, каб узяць ды нешта з крыламі выдумаць. Добра б было! Але да рэчы. Час, каб вышэйзгаданае праўленне скінула гэтыя шкелцы нерэальнасці і зірнула цвярозымі вачыма на тое, што дзеецца на гэтай шашы. Гэта ўжо не дзень, тыдзень ці месяц, а добры год або і болей цягнецца. Там, калі хто не знае дарогі, раз-два, калі не з кастухай, то са шпіталем спаткацца можа. Калдобіны аж страх! А людзі ж ездзяць розныя: і тыя, што ведаюць дарогу, і тыя, якіх першы раз лёс сюды кінуў. Так што час, каб Раённае праўленне перастала чакаць „верталётаў", а сур'ёзна занялося дарогай. А тое заляпванне калдобін, якія паяўляюцца масава, зусім тое самае, што ўліванне да студні вады. (мш)

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Спявае хор медліцэя з Бельска.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

**Беларуская літаратура** — **Аляксандар Баршчэўскі**

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XII**

**Гумарыстычная плынь. Сямейны побыт.**

Вялікую колькасць камічных камплікацый звязвае Паўловіч з рознымі праявамі сямейнага жыцця. Да сямейнага гумарыстычнага цыкла можна залічыць вершы „Пястун", „Скупы хлопчык", „Сыноўняя апека", „І плач не памагае", „Жаласлівая матка і цыган", „Бацькава ўцеха", „Боты", „За справункамі", „Спадчына". Апрача названых тыпова сямейных вершаў, элементы міжсямейных адносін выступаюць таксама ў іншых гумарыстычных творах Паўловіча. Аднак там сямейны матыў не з'яўляецца вядучым.

Сямейныя камічныя камплікацыі разглядае пісьменнік у розных аспектах. Да найбольш тыповых трэба аднесці канфлікт на лініі сын-маці, бацькі-дзіця, жонка-муж. Зразумела, можна тут гаварыць аб канфлікце неантаганістычным і антаганістычным.

Да неантаганістычных належаць вершы „Скупы хлопчык" і „Пястун". І ў адным і ў другім творы паказаны адносіны паміж маці і дзіцём. У „Скупым хлопчыку" выступае па сутнасці прыём слоўнага камізму. Аднак за гэтым камізмам скрываецца характэрнае для малых дзяцей — прыхапаць і незразуменне іншасказальнасці. У чым сутнасць канфлікту, выступаючага ў гэтым вершы? Маці заахвочвае сынка да яды. Гаворыць яму: „Еш з богам, саколік". Сын пратэстуе, гаворыць, што не хоча есці ўдвух з богам, бо ў такім выпадку мала застанецца яму. Вось у гэтым пратэсце заключаецца камічны аспект твора.

Падобны характар мае таксама верш „Пястун". Тут таксама ўвесь канфлікт адбываецца пры працэсе кармлення дзіцяці. Маці заахвочвае сына есці, падсоўваючы яму розныя стравы. Сын кідае на зямлю і міску з грыбамі, і лыжку. Аказваецца, прычынай злосці сына было тое, што не злавіўся на зубы слізкі грыб, і ён глынуў яго не пажаваным.

Да несумненна глыбейшых трэба аднесці верш „Бацькава ўцеха". Праўда, і тут яшчэ нельга гаварыць аб канфлікце антаганістычным, аднак элементы такога канфлікту ў творы выступаюць.

Твор „Бацькава ўцеха" — гэта свайго роду вершаванае апавяданне. Налічвае яно больш васьмідзесяці радкоў. У творы пісьменнік апавядае аб прыходзе са школы хлопца. Пісьменнік з выключна ўданай назіральнасцю паказвае захаванне хлопца, яго абыякавыя адносіны да кнігі і навукі, яго энтузіязм да фокусаў і псотніцтва. Твор па сутнасці пазбаўлены гіпербалічнасці і фікцыйнасці. Да якой часта прыбягаюць гумарысты з мэтай большай эфектнасці камічных камплікацый. У гэтым вершы па сутнасці ўсё рэалістычнае, але пры гэтым і смешнае. Як жа многа звычаёвай і псіхалагічнай праўды хаця б у першым фрагменце верша:

*„— Мой сынок, ты ўжо вярнуўся?*
*Ледзь цябе прыждала! —*
*Маці з радасцю вялікай сына так*
*спытала.*
*А той толькі ўскокнуў у хату весела*
*і гучна,*
*Пад услон закінуў шапку,*
*Матнуў кніжкі зручна,*
*Тыя з печы на пяколак, а адтуль*
*ў карыта:*
*Вось што знача сын рад святу —*
*ўсім навукам квіта!*
*Бацька, матка, дзед, бабулька*
*абступілі хлопца,*
*Як, казаў, на рынку бабу з яйкамі*
*ў каробцы...*

І яшчэ адзін фрагмент твора:

*Прайшоў час... сынок паснедаў,*
*як кот шмыгнуў ў дзверы;*
*Глядзі, поўна яго ўсюды — ў пуні на*
*асверы;*
*Матылькоў, жучкоў на полі сітам*
*падхапляе,*
*На гародах і на рэчцы сцежкі*
*пракладае;*
*Ў садзе віткі ўсе паскідаў; чэрці ў*
*млын загналі;*
*Па драбіне на дах злазіў, стуль у гай*
*і далей,*
*Праз парканы і пярэплаць, як кот,*
*спрытна скача,*
*Дагары нагамі зверне ўсё, што толькі*
*ўбача.*
*А на вуліцы у вёсцы камні знай*
*шпурляе,*
*А то ўзагрудкі з хлопцамі ўзяцца*
*патрапляе.*

І вось камізм заключаецца ў тым, што гэты выключна дынамічны ў сваволях і псотніцтве хлопец абсалютна пасіўны ў навуцы. Яго веды па сутнасці роўны нулю. Назіраючы за ім, пераконваемся, што вырасце з яго лаўкач і прайдоха. Песімістычны аспект гэтага камізму заключаецца ў тым, што бацькі не разумеюць кірунку разумовага і псіхічнага развіцця іх сына.



 

 

# Больш творчай фантазіі

(Працяг са стар. 3)

лак? Верачы, што аўтар „Дружбы“ ведае аб гэтым і не будзе мантаваць супраць мяне „народнага гневу“, хачу сказаць, што ў яго новай паэтычнай кніжцы выклікае мае заўвагі.

Мне здаецца, што многія вершы гэтай кніжкі ўзніклі не з творчай інтуіцыі, але з надуманасці. Гляньце, амаль ва ўсіх вершах выступаюць дзеці, але з татам, што само ў сабе не з'яўляецца нічым дрэнным, але што пярэчыць аб'ектыўнай вымове фактаў, бо дзяцей дашкольнага ўзросту выхоўваюць перш за ўсё жанчыны. Яны іх нараджаюць, яны першыя паказваюць ім свет і яны першыя вучаць яго называць. Калі дзіця ў гэтым узросце адлучана ад маці, гэта лічыцца анамаліяй. А там, дзе ў вершы якраз патрэбны тата („Сядзіць Коля на таполі“), раптам з таполі мае зняць дзецюка мамуся. Да таго ж з верхавіны! На гэтым прыкладзе відаць, як паэт падпарадкоўвае логіку вобраза фармальным патрэбам верша (рыфмоўцы: мамуся-баюся).




Могуць таксама не падабацца іншым, як мне, тыя вершы, якія трымаюцца толькі на ўяўленым глыбокім досціпе („Як Ануля малако пільнавала“, „Чакаў апошняга званка“, „Чаму вада салёная ў моры?“, „Ці падрос я, тата“, „Да сонца далёка“). Такія творы не гавораць нічога больш, што сказаў аўтар, а найчасцей яны пустыя ў сярэдзіне, бо тут паэт працуе на далёка другарадным матэрыяле. Ну а з такога матэрыялу наўрад ці можна напісаць высокамастацкі літаратурны твор.

Затое такія вершы, як „Крот“, „Суп“, „Лясныя дактары“ „Курка чубатка і гусяняткі“, „Апошні ліст“ і іншыя сведчаць, што В. Швед умее пісаць добрыя вершы для дзяцей.

*Віктар Швед, Дружба, Выдавецтва „Мастацкая Літаратура“, Мінск 1976 г., 32 стр., цана 1,90 зл.

** Зразумела, не ўвесь тыраж прышлюць з выдавецтва ў Польшчу. Але тую колькасць, якая дойдзе да нас, дзеці возьмуць нарасхоп, бо цана кніжкі сімвалічная, не цэлых два злотых.

**Янка Чыквін**




## ЯК МЫ ЕХАЛІ, ЕХАЛІ...

Вось меў я падарожжа! Выехаў я з жонкай і пяцігадовай дачкой з Нараўкі ў Беласток (95 км) вячэрнім поездам, які адыходзіць у $20^{23}$. У Гайнаўцы трэба было перасесці на другі поезд, які едзе з Белавежы ў Беласток. З Гайнаўкі ён ад'язджае ў $20^{55}$. Не паспелі мы даехаць да перонаў, як ужо на нашых вачах ад'ехаў той „беластоцкі“ поезд. Як быццам знарок! Забягаем да дзяжурнага руху.

— Чаму не пачакаў? — пытаемся.

— А я і сам не ведаю, — кажа дзяжурны. — Узяў ды паехаў.

— Што рабіць? — пытаюцца пасажыры, якія гурбою сабраліся ля адкрытага акна ў дзяжурнага. Некаторыя з дзяцьмі на руках. Усе ўсхваляваны.

— Чакайце, — кажа дзяжурны. — Я яго затрымаю па дарозе.

Чакаем. Дзяжурны пачаў званіць. Спачатку ў Старое Беразова. Але поезд адтуль ужо ад'ехаў. Тады ў Арлянку. Але туды не дазваніцца — няма нікога. Праз нейкі час адазваўся па тэлефоне Бельск. Поезд заехаў ужо да Левак. Вярнуць яго няма дазволу.

Набліжаецца ноч. Дзеці робяцца дакучлівымі. Бацькі бездапаможна злуюцца. Выходзім і мы на перон. Тут сумятоха, гармідар. Гэта служачы аховы чыгункі пагнаўся за даўгавалосым бландзінам, які прыйшоў сюды з калегамі пахуліганіць. Дзе яго зловіш? Ды яшчэ самому! А калегі рагочуць: „Вось пагнаўся, ну і што!“ Яны тут нікога не баяцца. Зараз пойдуць падакучаць маладой буфетчыцы, кінуць папяросу ў кош з паперамі. Хай курыць у пачакальні. Так жа смяшней, калі падарожныя пачнуць чыхаць. А ім што, абы швэндацца. У іх столькі часу! Яны нікога не чакаюць...

Жонка намерылася пазваніць у гасцініцу. У пачакальні вісіць на сцяне тэлефонны апарат. Спрабуе званіць, але нічога не выходзіць, ён папсаваны. Вісіць, от, так сабе, абы вісець. Калі пазванілі з дзяжуркі, даведаліся, што няма вольных начлежных месц. У Дом настаўніка прыехалі на два месяцы мастакі на пленер і ўсе месцы занялі. У гарадской гасцініцы таксама заняты. Ідзем пераштэмпляваць білеты. Дзяжурны ставіць на іх пячаткі з надпісам: „№ 11 Дзяжурны руху ст. Гайнаўка“, піша: „Поезд 88818 ад'ехаў без наказу“ і падпісваецца.

Жонка ўспамінае нейкіх даўніх знаёмых, у якіх можна пераначаваць. Хочам паехаць на таксі. Яны ёсць, але, невядома чаму, няма ў іх шафёраў. (Пэўна тут так заведзена). Чакаем больш 15 хвілін. Паяўляецца шафёр чорнай Волгі (нумар тут непатрэбны), але ехаць не збіраецца (яму б далёкі курс, ну, прынамсі за горад). Калі жонка пытаецца катэгарычна, ці ён адмаўляе, неахвотна згаджаецца ехаць тры кіламетры.

У Беласток мы выехалі на другі дзень у $6^{53}$. Недаспаўшыя і змучаныя. За семафорам поезд рэзка затармазіў. Дачка-непаседа кінулася паглядзець у акно. Ёй усё цікава. Жонка, тая выразна пабляднела. На сам успамін учарашняга няўдачнага падарожжа. Я пачаў яе супакойваць. Аказалася, ізноў фальстарт. За поездам паабапал чыгуначных рэек беглі пасажыры. Яны таксама ехалі поездам, які паводле раскладу язды паяздоў павінен мець далейшае, якраз на Беласток спалучэнне. Павінен!.. Цікава, ці і на гэты раз ехаў той самы кіраўнік поезда? Бо поезд ехаў з Белавежы...

**Іван Непаседа**

## АД РОДНЫХ НІЎ

### МАЛАДЫЯ

*Маладыя ў вёсцы*
*не хочут рабіці,*
*уцякают у горад,*
*каб лягчэй пажыці.*
*Бацьу, вы зямельку —*
*просят — не здавайце,*
*сяк-так памаленьку*
*самі абрабляйце.*
*А да вас мы будзем*
*часта прыязджаці,*
*калі трэба будзе*
*вам дапамагаці.*
*Жывут там багата,*
*калёсачку мают,*
*і дзе родна хата*
*часта прыязджают.*
*Часта прыязджают*
*старым памагаці,*
*цялятка зарэзаць,*
*свінку разабраці.*
*Не жылі б багата,*
*не гналі б ў калёсцы,*
*Каб не бедны тата,*
*што астаўся ў вёсцы.*

**А. Леўшук**
Ціванюкі

Ф·А




**Вясельныя прыпеўкі**

**(ЗАСТОЛЬНА**

*

*Старшы брат, старшы брат*
*нэ ўміе косыты,*
*він повінен старшу дружку*
*на руках носыты,*
*він повінен мэншу дружку*
*той поцэловаты,*
*він повінен мэншу дружку*
*той поцэловаты.*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лютага 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.




Жанчыны, бы кветкі, рассыпаліся па лясной палянцы ў глыбіні Белавежскай пушчы. Садзілі маладзенькія парасткі будучых сосен і елак, што гордымі верхавінамі цягнуцца да хмар. Жанчыны працавалі і спявалі. Задушэўна, шчыра, па-нашаму, як пры дзедах-прадзедах бывала. А найбольш чутна разносіўся голас цёткі Тэклі Кот.

— *А чаму ж мне не спяваці, калі ёсць шчасце ў маёй хаце,* — весела заявіла яна, прысеўшы на шырокі пянёк, каб хвіліну адпачыць. Сярод арэшкаўскіх жанчын, што ў гэтую нядзелю сабраліся на працу грамадскім чынам, яна была найстарэйшай. Твар з глыбокімі маршчынамі, спрацаваныя рукі, пасівелыя валасы. І толькі бадзёры жыццерадасны позірк...

— Мне ўжо даўно за 60. Гэта вам не хаханькі. Падумайце толькі... А колькі ж бяды і гора прыйшлося перажыць мне за гэты час! Страшна нават успамінаць. Я ж сама адна, без мужа, выгадавала шасцёра дзяцей-сіротак, у свет іх пусціла.

Успаміны мінулага балюча закранулі яе грудзі. Цётка Тэкля ражком хусткі хутка выцерла наплыўшыя слёзы і праз кароткую хвілінку пачала павучальны расказ пра свой складаны шлях да цяперашняга шчасця.

У жніўні 1941 года, калі Гітлер усю Белавежскую пушчу перадаў ва ўладанне свайму сябру па злачынстве Генрыху Герынгу, Арэшкава, як і ўсе іншыя тутэйшыя вёскі, былі пушчаны з дымам, а іх жыхароў гітлераўцы разагналі па цэлым свеце. Сям'я Тэклі Кот апынулася ў Прусіі на прымусовых работах у нейкага нямецкага памешчыка.

— Прагаравалі мы там неяк аж да вызвалення і сабраліся ехаць на радзіму. Дабраліся ўжо пад Гайнаўку, і тут, як гром з яснага неба... няшчасце, як кажуць, на гладкай дарозе. Наш воз, якім мы ехалі, нечакана трапіў пад вайсковы грузавік, што поўным газам імчаўся па сярэдзіне дарогі. І так назаўсёды на гэтай дарозе застаўся мой пакойны муж. На роднай зямлі, ля варот сваёй хаты прыйшлося беднаму пакласці галаву...

І зноў балючыя ўспаміны паплылі горкімі слязінкамі... На смерці мужа не закончыліся яе пакуты. На папялішчы роднай вёскі не было нічога, ні кала, ні двара. Нават зямлянку для сябе і для дзяцей не было чым выкапаць. А дзеці былі маленькія, найстарэйшая дачушка ледзь сямігадовая...

На іхняй гаспадарцы паспеў ужо рассесціся нейкі закерзонец і ніяк не хацеў уступіць. А без гаспадаркі, без гэтых двух гектараў зямлі — што рабіць, адкуль браць хлеб ды і ўсё іншае?

— Што ж мне было рабіць? Дзяцей патапіць, а самой на сухой галіне? Жабрачкай прыйшлося быць, — прызнаецца яна прыцішаным, засаромленым голасам. — Ад вёскі да вёскі за міласцінай хадзіла, каб для сваіх дзетак кавалак хлеба раздабыць. Знаходзіліся спачувальныя людзі, не далі нам памерці. Два гады так я мучылася. Потым ужо крыху лягчэй стала, бо зямлю



сваю адваявала. Заступіліся за мяне. Вярнулі гаспадарку. А пасля ўдалося мне ўладкавацца на пасаду школьнага стаража. 17 гадоў паліла печкі, прыбірала, за парадкам сачыла. Былі пастаянныя грошы, дык і сваіх дзяцей змагла паслаць у школу, каб людзьмі карыснымі сталі.

— А дзе цяпер вашы дзеці? Чым займаюцца?

— Трое жыве аж у Шчэціне, адна дачка ў Варшаве, адзін сын у Плоцку і яшчэ адзін сын у Гайнаўцы, а я — пенсіянерка. Таня — сама старэйшая — вывучылася на бухгалтарку, і цяпер яна загадчыца вялікага складу будаўнічых матэрыялаў ў Шчэціне. Там жа працуе другая дачка Каця. Сын Аляксей з'яўляецца начальнікам чыгуначнай станцыі ў шчэцінскім порце. Мікалай — другі мой сын — працуе на Плоцкім нафтаперагонным камбінаце. Ён брыгадзір мантажнікаў, што будуюць велізарныя рэзервуары для нафты. Усе яны ўладкаваліся добра, жывуць з працы сваіх рук, на чужое не азіраюцца, сораму старой матцы не прыносяць. І таму я шчаслівая сёння.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## СКР — гаспадар

СКР у Нурцы-Станцыі арганізаваўся 1 ліпеня, а сваю дзейнасць гаспадарчую пачаў 1 верасня 1975 года. Яднае ён тры сельскагаспадарчыя гурткі. Асноўная яго дзейнасць — гэта сельскагаспадарчыя паслугі сялянам і апрацоўка 800 га зямлі, якую СКР атрымаў у загаспадараванне з ПФЗ.

На гэтай зямлі было пасеяна збожжа і расліны на корм свіням, якіх зараз гадуецца звыш 800 штук. Меншую ролю адыгрываюць паслугі рамонтнай майстэрні сельскагаспадарчых машын і будаўляныя.

**Мікалай Няплоха**

## ПАРНАСік
### Чытальніцкая літсупколка на негарантаваных паях

**Хмель**

*Хмель у карчах расце і ўецца*
*Хмеляві ўсяк удаецца —*
*Хмель да водкі, хмель да піва,*
*З хмелю можна зрабіць дзіва.*
*Чалавек Хмелем бывае —*
*Прозвішча такое мае,*
*Ён цяжару не баіцца,*
*У гміне Нарва ганарыцца.*
*Аблагі ўсе забірае,*
*Ураджай ён паднімае,*
*Каб у дзяржаве ляпей жыць,*
*Хлеба й пашы болей мець.*
*Макаўка хоць невяліка*
*Ганарыцца на акруг —*
*Там свінарня, там аўчарня,*
*Электрычны там пастух.*
*Жыві Хмель ты, развівайся,*
*Ураджаі паднімай,*
*Каб ў сялянскіх нашых хатах*
*Весялей жылося нам!*
*Цябе будзем успамінаці,*
*За цябе Бога прасіць,*
*Жыві Хмель ты сіваваты,*
*Нам на доўгія гады!*

**М. Лук'янюк**

**Бягу**

Бягу цераз дарогу
мінаю школу воду
і зноў бягу
бягу наперад
сярод палёў і сквераў
і я і мы бяжым
ўсе радасна крычым
чаго нам трэба
так старацца
і ўсім
хто скажа мне
спяшацца
хто факт пацвердзіць
усе мы гэта
можам сцвердзіць
што бегчы мы
ўперад павінны
так ёсць ужо
з часоў старынных

**Кара-кум**

кавасцю слухалі тэмпераментныя расказы байцоў групы Арлоўскага аб паходзе па тылах ворага, аб баявых аперацыях. Камандзіры ж — капітан Мора, камісар Кампа — адразу прызналі ў Арлоўскім старшага, часта раіліся з ім.

Арлоўскі дапамог ім сфарміраваць і падрыхтаваць два невялікія дыверсійныя атрады. Праз некаторы час гэтыя атрады адправіліся ў правінцыю Уэльву, пад самую партугальскую граніцу. Атрады павінны былі праводзіць дыверсіі на шашы і чыгунках, вывесці са строю абутковыя фабрыкі, якія забяспечвалі абуткам армію мяцежнікаў, а заадно — папоўніць і свае запасы абутку.

Між тым Арлоўскаму трэба было вяртацца ў штаб корпуса, далажыць аб зробленым. Схіліўшыся над картай, Кірыла Арлоўскі і Сцяпан Ярашэня абмяркоўвалі маршрут рэйду назад. Ярашэня, стройны, чарнявы весяльчак і жартаўнік, на гэты раз быў чамусьці задумлівы і сумны, адну за другой курыў трафейныя цыгарэты.

Вечарам 13 ліпеня, за тыдзень да вяртання на базу, група Арлоўскага напаролася ў гарах на засаду. Фашысты адкрылі агонь. Першымі ж стрэламі яны забілі Сцяпана Ярашэню, смяртэльна паранілі іспанца Дамінгіса.

(Працяг будзе)

## Так патрэбныя

Іван Дзмітрук з вёскі Рудуты ў Арлянскай гміне мае свой уласны малацільны агрэгат. Купіў яго старым, але цяпер гэтай машыне могуць пазайздросціць новыя. Добрая якасць машыны залежыць ад яе ўладальніка. А Іван вельмі даглядае сваю машыну. Яна ў яго заўсёды ў належным парадку. Кожная дэталь і частка памазаны і вельмі рэдка здараецца, каб агрэгат гэты спыняўся ў час працы.

Іван Дзмітрук абслужыць сваю вёску, а таксама і суседнія, як Рутка, Грабавец.

**М. Панфілюк**

## У Гайнаўцы на пасёлку 4

Гайнаўская спажывецкая спулдзельня „Сполэм" штогод разбудоўвае сваю гандлёвую базу. Нядаўна пісала „Ніва", што быў адкрыты спулдзельчы гандлёвы дом, дзе прадаюць прамыслова-хімічныя тавары і розныя дробязі.

У жніўні зноў быў адкрыты новы спажывецкі павільён на вуліцы Ліповай у пасёлку № 4.

Наканец, пасля трох год чакання, маем сваю краму. Крама адкрыта ад 6 да 18 гадзіны. Працуе тут тры асобы. Кіраўніком з'яўляецца шматгадовы працаўнік ВСС — Вера Панькоўская. Яна стараецца добра абяспечваць сваю краму. Ветлівая і спраўная.

За рэалізацыю пастулатаў жыхароў пасёлка і пабудову нам крамы дырэкцыі аддзелу ВСС у Гайнаўцы шчырае дзякуй.

**Э. Вайсковіч**

## Сіламі гуртка

Вёска Ляшукі ў Нараўкаўскай гміне вядомая ў асяроддзі, як вёска культурная і чыстая. Многа тут прыгожай моладзі, якая згуртавана ў гуртку БГКТ. Гурток ляшуцкі вядзе актыўную працу, арганізуе цікавыя вечары, лекцыі, сустрэчы з беларускімі паэтамі. Вялікай папулярнасцю ў Ляшуках карыстаецца Алесь Барскі і Віктар Швед.

Гуртком БГКТ супольна з актывам кіруе старшыня Янка Харкевіч сын Уладзіміра (на здымку).

У клубе чыста і парадак. Як старэйшы, так і малады можа тут культурна і добра правесці час.

**В. Б.**

## Дубіцкі абмалотачны

У сельгасгуртку ў Дубічах Царкоўных абмалотачным працуе Іван Карнілюк. Ён даглядае свой малацільны агрэгат вельмі старанна. Малацьбу распачынае з самай раніцы, а канчае позна ўвечары. За дзень абмалоціць 4-5 сялян, а то і больш.

А трэба ведаць, што сяляне сёння многа маюць збожжа, а дні не так і доўгія. Дубічы задаволены сваім абмалотачным і кажуць: такога стараннага і кемлівага яшчэ ў нас не было.

**М. Панфілюк**

## ГС вырашыў

Два гады таму я пісаў аб праблеме, якая хвалявала жыхароў Чаромхаўскай гміны. Тычылася яна неадпаведнага размяшчэння філіяла ГС, касы СОП і ГС-аўскіх складаў. Справа ў тым, што тры гэтыя пункты адлеглыя былі ад сябе па некалькі соцен метраў.

Ад жніўня г.г. праблема ўжо вырашана. Кляшчэлеўскі ГС мадэрнізаваў будынак ВДТ. І так, змяшчаецца тут зараз рыбная секцыя, манапольная, бумажная і хатніх прыладаў, а таксама мэблевая, дзе можна купіць мэблю, тэлевізар, сціральныя машыны, матацыклы і г.д. На паверсе будуць змяшчацца філіял ГС і СОП. Побач ВДТ — склады ГС. Гэта вялікая палёгка жыхарам гміны. Дзякуй за гэта кляшчэлеўскаму ГС-у!

Хацелася б, каб кожная праблема была так па-гаспадарску вырашана (толькі не так доўга). Змянілася б тады рэпутацыя аб кляшчэлеўскіх гандлёўцах. Як бачым на вышэй прадстаўленым прыкладзе, няма рэчаў немагчымых, трэба толькі хацець!..

(ус)

## Насустрач людзям

Пабываў я нядаўна, у вольную суботу, у вёсцы Клейнікі. Праходзячы ля крамаў, заўважыў, што абедзьве адкрыты. Спажывецкая — гэта зразумела — жніво і першыя патрэбы, але прамысловая — гэта мяне зацікавіла. Паўжартам пытаю прадаўшчыка, ці сёння таксама павінен працаваць? Аказваецца, што крама павінна быць закрыта. Аднак прадаўшчык Фёдар Яканюк сцвярджае, што ён сам бачыць патрэбу адкрыцця крамы ў такі час. Людзі ідуць у краму спажывецкую і адначасова маюць патрэбы закупкі ў краме Фёдара Яканюка. Ён ідзе ім насустрач. Варта адзначыць, што і дасягненні ў тым напрамку вялікія. У краме можна купіць і прылады да сельскай гаспадаркі, і тэкстылії, і матэрыялы з чатырох бранжаў. Крама перапоўнена таварамі, ёсць з чаго выбіраць. Фёдар і яго жонка Ліда (працуе разам ад 3 год) ветліва заахвочваюць кліентаў да закупкі. Тут многа сялян з Клейнік і ваколіцы купіла электрычныя халадзільнікі, сціральныя машыны, тэлевізары і г.д. На працягу 2 тыдняў распрадана больш 12 халадзільнікаў, а найбольш маркі „Мінск-10". Таму і план за 7 месяцаў перавыкананы на 400 тысяч зл.

Фёдар Яканюк з'яўляецца вопытным прадаўшчыком. У ГС працуе 17 год, а ў краме 7 год. За гэты час здабыў аўтарытэт у асяроддзі. Фёдар Яканюк — актывіст гміннага камітэта ПАРП, член экзекутывы ПОП, калегіі пры начальніку гміны, сельскагаспадарчага гуртка. Працуе ў ОРМО. Апрача сваёй працы ў краме і працы грамадскай, ён вядзе прыкладна сваё гаспадарства.

**Аляксандр Закройшчык**
Нараўка

## Арлянскія інвестыцыі

Нязоркі гледач можа сказаць, што Орля не змяняе свайго аблічча, што мала што ў ёй будуецца, але гэта няпраўда. У нас робіцца многа. Ужо закончана пакрыванне бітумічнай наверхню дарогі Орля-Пашкоўшчына і Орля-Крывяцічы. Неўзабаве дарожнікі пераедуць на смалаванне дарогі Орля-Дубічы Царкоўныя.

Хутка распачне прадукцыю новапабудаваная даволі вялікая мясная. Яна забяспечыць у мясныя вырабы не толькі жыхароў гміны Орля, але і горад Бельск.

Таксама ў бліжэйшым часе ўлады гміны пяройдуць у новае памяшканне — трохпавярховы будынак, у якім змяшчацца будзе бюро гміны і пошта. Насупраць гэтага будынку расце двухпавярховы банк спулдзельчы. У гэтых абодвух блоках зараз заканчваюцца работы: тынкаванне ўнутры, закладанне электрычнай інсталяцыі і іншыя. Праўда, што арлянскія інвестыцыі не тыпу гуты „Катавіцэ" ці Белхатова, усё ж яны каштуюць дзесяткі мільёнаў злотых.

Арляне не трацяць надзеі на прадбачаную пару год таму пабудову керамічнага завода. Усё ёсць для таго — вялікія залежы высокаякаснай гліны, выкапаны артэзіянскі калодзеж коштам чуць не мільён злотых, запатрабаванне на добрую цэглу і апошняе — добрая керамічная традыцыя ў жыхароў гарадка Орля.

**М. П.**

## Колькі ж чакаць?

У Тафілаўцах Дубіцкай гміны зруб пад будынак святліцы разам з рамізай ужо выкананы. Аднак на гэтым работы былі спынены і пакуль нічога не чуваць — ужо ладных паўтара месяца.

Мо ўсё набірае ўрадавай моцы?

**П. Д.**




**Эдмунд Вайсковіч** — Усё зноў будзе добра, як калісьці. Чакаю добрых, зубастых і незубастых матэрыялаў — В. Валкавыцкая.

Адказ на паштоўку **Міры Лукшы.** Яна піша адносна верша пра Семнякоўшчыну („Ніва" № 34 з 22 жніўня). Гаворыць, што падазраваюць яе ў напісанні гэтага верша. Выясняем: верш падпісаны „Тутэйшы" не напісала Міра Лукша. Аўтара ведаем, але гэта таямніца рэдакцыі.

## Людзі без сэрца і культуры

Мо хто і засмяецца, калі скажу, што ёсць людзі без сэрца. А яны сапраўды ёсць! І дзіўна, жывуць з намі, між нас. Толькі што хворы яны на небяспечную хваробу, якая „знечуліцай" завецца.

Бо як жа сказаць аб чалавеку, што ў яго сэрца, калі ён седзячы на лавачцы ў парку, кідае на зямлю паперы, недакуркі, запалкі. І як жа часта, за часта гэта бачым! Крычаць хочацца: людзі, ёсць жа спецыяльныя месцы, куды культурны чалавек кіне смецце! Але спрабуйце заглянуць у кошык на смецце — ён пусты, а смецце валяецца.

Ці ж згодзішся, дарагі чытач, цяпер са мной, што ёсць людзі без сэрца?

**Кара-кум**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ „КАБ НА ІХ ХАЛЕРЫ, ЗАМЫКАЮЦЬ ДЗВЕРЫ" — № 26 АД 27.VI.76.

Адказвае: **Bank Spółdzielczy w Sokółce.**

W nawiązaniu do przesłanego wycinka prasowego z dnia 6.07.1976 r. w sprawie zamknięcia ubikacji w Banku Spółdzielczym w Sokółce wyjaśniamy, co następuje:

Istotnie, zaistniał fakt zamknięcia na pewien okres WC dla klientów Banku celem dokonania naprawy zdemolowanych przez klientów urządzeń sanitarnych. Po naprawie WC zostało otwarte.

Żałujemy bardzo, że korespondent Wasz pisze ironicznie na temat zamknięcia WC przez instytucję. Jako dobry obserwator powinien również napisać, jak skandalicznie zachowują się osoby korzystające z toalety (załatwianie się do umywalki, do pojemnika na śmiecie itp.). Niestety toaleta w Banku Spółdzielczym nie jest toaletą publiczną, a korzystają z niej również pracownicy Banku, którzy nie są zobowiązani do sprzątania pozostawionych nieczystości.

W przypadku dalszej dewastacji urządzeń sanitarnych toaleta zostanie zamknięta ponownie, a interesanci Banku będą mogli korzystać z WC znajdujących się na terenie miasta.

**Z-ca Dyrektora**
**Banku Spółdzielczego w Sokółce**
**Regina Zembowicz**

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ „ДВА РАЗЫ ПРА ГАЙНАВЯНКУ" — № 21 АД 23.V.76

Адказвае: **Oddział WSS w Hajnówce.**

Z zainteresowaniem przeczytaliśmy notatki na łamach poczytnej w naszym rejonie „Niwy" i cieszy nas fakt udostępnienia miejsca naszym sprawom nawet poprzez taką krytykę, którą pragniemy wyjaśnić.

**Odnośnie notatki „Reklama"**

Zgadzamy się z przytoczonym faktem niezgodności kategorii zakładu na reklamie ulicznej ze stanem faktycznym. Informacje uliczne są aktualne średnio raz w roku, a kategorię „Hajnowianki" zmieniono w międzyczasie, stąd powstała niezgodność. Obecnie po ukazaniu się notatki, tablica została poprawiona — informuje, że w/w lokal jest kategorii II.

Informujemy, iż reklama nigdy nie była i nie będzie podstawą do roszczeń i jeśli w opisanym wypadku tak było, to chyba jedynie po wypitych 100 g jak i autor stwierdził w swoim artykule.

**Odnośnie notatki „Restauracja po remoncie"**

Cieszymy się iż właściwie zostały zauważone zmiany zakładu po remoncie, jednak nie zgadzamy się z opinią, iż remont został wykonany przez brakorobów i w dodatku niechlujnie.

Remont tegoroczny został wykonany własną brygadą i w odróżnieniu od remontów z poprzednich lat, wykonywanych przez Rzemieślniczą Spółdzielnię Rzemiosł Różnych w Hajnówce, tegoroczny wykonany jest w/g nas wzorowo.

Żałujemy, iż korespondent nie zauważył po poprzednim remoncie fatalnie zeskrobanego sufitu, odpadającej farby na wszystkich ścianach, całkowitego braku przetarcia tynków oraz szereg innych niedoróbek.

W roku bieżącym postanowiliśmy wykonać remont własną brygadą w zakresie:

— całkowitej wymiany parkietu;

— zeskrobanie starej farby w całym zakładzie wewnątrz oraz na zapleczu;

— całkowite przetarcie wszystkich tynków, czym w dużym stopniu wyrównaliśmy poprzednie braki. (Ubytki starego tynku wynosiły ok. 50%);

— zmiana oświetlenia ze starego tradycyjnego — 6 żyrandoli wątpliwego wyglądu — na nowy tzw. rampowy;

— pomalowanie wszystkich ścian farbą emulsyjną;

— nowy wystrój, jak to podkreślono i w notatce.

Nadmieniamy, iż powyższy remont wyniósł tylko 160 tys. zł. (przy wykonawstwie obcym koszt byłby dwukrotnie wyższy), co ma kapitalne znaczenie dla naszych wyników ekonomicznych.

Znaczenie ma również fakt, iż mamy opracowaną dokumentację na modernizację „Hajnowianki" i musieliśmy to uwzględnić przy kosztach tegorocznego remontu.

Uprzejmie dziękujemy za poświęcony nam czas.

**Z-ca Dyrektora Oddziału**
**Konstanty Leszczyński**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-22-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Афёра

*Я да пакупак не ахвочы*
*З рук выпадковых „традаўцоў“.*
*І ўсё ж, прызнаюся, аднойчы*
*На гэту вудачку пайшоў.*

*Гляджу, ідуць два бедалагі,*
*Хапіўшы „гары“ ў самы смак,*
*З надзеяй ціхай і павагай*
*Мяне яны спыняюць так:*

*— Скажы, ці не купіў бы ў нас ты?..*
*Будзь чалавекам — паспрыяй.*
*„Такое дзеецца не часта“, —*
*Падумаў меркантыльна я.*

*Бесцырымоннасць ім дарую*
*(Сустрэчы гэткай трошкі рад)*
*І ў рукі ўважліва бяру я*
*Фатаграфічны апарат.*

*— І колькі ж цэніце яго вы? —*
*Пытаю гучна: я — купец. —*
*Ваш апарат ужо не новы...*
*Кажыце суму, і — канец.*

*— З цябе, не бойся, шмат не просім.*
*Мы разбяжымся, як сябры:*
*Дай нам рублёў якіх там восем*
*І на здароўечка бяры.*

*Па-мойму, у падобнай сцэне*
*Ва ўсіх пачуцці закіпяць —*
*Ну, хто, скажыце, за бясцэнак*
*Набыць не схоча „Зоркі-5“?!*

*Хаджу і езджу з апаратам,*
*Сяды-тады бяру заказ.*
*Усё пайшло сваім парадкам,*
*Ды напаройся адзін раз...*

*Стаю на задняй я пляцоўцы,*
*Матор аўтобус ледзьве пхне.*
*Сядзіць бушвалак у ватоўцы,*
*Уставіў бельмы на мяне.*

*— Эй ты, умелец! — клікнуў потым, —*
*Што у цябе за апарат? —*
*Заліўся я халодным потам:*
*„Ну, думаю, папаўся, брат...*

*А, можа, лепш зрабіць бясшумна —*
*Прызнацца проста, не хітрыць?..“*
*— А у мяне, — пачаў ён сумна*
*І, пачакаўшы: — „Зоркі-3“...*

**Іван Курбека**



# НІЎКА





*— Не хацеў бы вас засмучаць, стары, але вам засталося не 3511 дзён, а 3512!*

### НЯВЕСТА

Сяброўка-сяброўцы:

— Дзень, калі я выйду замуж, будзе сумным для многіх маіх кавалераў.

— Не думаю. Ты ж не зможаш выйсці адразу больш, чым за аднаго...

### ЗАМЕННІКІ

— Вы што, сабаку сабе прыдбалі?

— Ды не, з ім надта многа клопатаў. Калі ночку чуем падазроныя гукі, мы гаўкаем самі...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Муж і жонка — ў кабінеце зубнога лекара.

— Колькі вы возьмеце за выдаленне аднаго зуба? — спытаў муж.

— З наркозам ці без?

— Без наркоза! — цвёрда вырашыў муж.

— Брава! — сказаў дантыст. — Нарэшце з'явіўся храбры мужчына!

— Сядай у крэсла, дарагая, — сказаў муж.

*

Йенсан ужо цэлы дзень сядзеў з вудачкай у руках, і ўвесь гэты час за ім пільна назіраў незнаёмец, які моўчкі сядзеў у некалькі кроках ад яго. Урэшце Йенсан не вытрымаў і спытаў:

— А чаму вы самі не ловіце рыбу?

— У мяне не хапае цярплівасці.

*

Пешахода збіла машына, пакалечыла яму ногу. На судзе ён патрабаваў кампенсацыю ў пяцьдзесят тысяч фарынтаў.

— Вы, відаць, думаеце, што я мільянер! — запратэставаў уладальнік машыны.

— А вы, напэўна, лічыце мяне саранкожкай! — адказала ахвяра вулічнага руху.

ГУМАР З

### РАЗБЛЫТАЎ СПРАВУ

Салдаты напісалі генералу скаргу, што ім не вараць кашы, а толькі боршч. Прыехаў генерал! Групавая скарга ад салдат! Нечуваная справа! Сабраў ён начальства і пытае:

— Ну, как вы допустили солдат до такого сознания? Куда вы смотрите? Я вам покажу, сукины сыны!

Потым сабраў салдат і давай пытаць:

— Вы мне писали жалобу? Скажите, кашу вам варят или не варят?

Усе маўчаць — каму ахвота вырывацца?

А адзін салдат вылупіў на яго вочы ды й слухае:

— Вот ты, например, солдатик! Скажи, кашу варят?

Той выцягнуўся пад казырок:

— Так точно, ваше высокопревосходительство!

— А как варят?

— День не варят, два не варят, потом погодят — опять не варят.

— Значит, всё-таки варят? Разойдись!



*— Дзеці, спакойна, бо гэты вар'ят можа выразаць усю нашу сям'ю...*

### ДЗЯЎЧЫНКА БЕЗ УЗРОСТУ

Малы Андрэйка прыбег дадому і закрычаў:

— Мамачка, а да цёці Валі прыехала ў госці маленькая дзяўчынка.

— Колькі ж ёй год? — пытаецца маці.

— А яна яшчэ такая маленькая, што ёй яшчэ і гадоў няма.

### СПОСАБ

— Старэю, старэю, — скардзіцца Парфен.

— Што зробіш, — пацяшае яго Кастусь, — гэта адзіны спосаб пражыць доўга.



# ПУДЗІЛА

Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Не забудзь запісацца на садовы ўчастак, — сказала яна.
— Не забуду, — абяцаў я.
Праз год мы ўжо жылі ва ўласным садовым доміку на ўласным садовым участку.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Трэба паставіць пудзіла, — сказала яна.
— Трэба, — згадзіўся я.
Пудзіла я паставіў.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Трэба яго апрануць, — сказала яна.
— Трэба, — згадзіўся я.
— Збяры якую-небудзь старызну, — сказала жонка.
— Мо', збярэш ты?
— Дзе ты бачыў пудзіла ў жаночым уборы? — спытала жонка. — Яно мужчынскага роду.
Са старызны ў мяне знайшліся толькі габардзінавы касцюм, які выйшаў з моды, і велюравы капялюш.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Ідзі правер пудзіла, — сказала яна.
Я праверыў. Пудзіла было на месцы.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Ідзі паглядзі, ці не ўпаў капялюш?
Я праверыў. Капялюш быў на месцы.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Ідзі правер, ці не прапаў касцюм?
Я праверыў. Касцюм быў на месцы.
Ноччу мяне разбудзіла жонка.
— Ідзі яшчэ раз правер пудзіла.
Я пайшоў. Габардзінавы касцюм і велюравы капялюш былі на месцы. Пудзіла таксама. Я вырваў яго з кораням, узваліў на плечы і панёс, па дарозе ўспамінаючы Галгофу. Я палажыў пудзіла побач з жонкай, а сам вярнуўся ў агарод і стаў на яго месца.
Ноччу яго разбудзіла жонка.
— Ідзі правер, сказала яна.
Пудзіла пайшло і праверыла мяне.
— Усё ў парадку, дарагая, — сказала яно. — Спі спакойна. Ты мая кыська.
З тых пор жонка спіць спакойна.
Я таксама.

**Усевалад Прывальскі**

**Усе пароды авечак воўк ведаў на зубок.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Юркі Рыбака з Галадоў змяшчаем песню*

## DAMĄ BYĆ

słowa: Agnieszka Osiecka
muzyka: Jacek Mikuła
śpiewa Maryla Rodowicz

Tak chciałabym
tak umiałabym
powiewną być,
niby dym!
Królewną być,
złote kwiatki rwać,
i trenować nowe miny,
i przed lustrem stać!
Tak bym chciała damą być,
ach, damą być,
ach, damą być,
i na wyspach bananowych dyrdymały śnić!
Nie mam serca do czekania, do liczenia, do zbierania,
nie, mnie nie zrozumie pan!
Nie mam głowy do posady, do porady, do oglądy,
to zbyt opłakany stan!
Chcę swój szyk jak dama mieć,
jak dama mieć,
jak dama mieć
i jak moja ciocia Jadzia z wrażliwości mdleć!
Nie mam serca do sieroty,
zgubionego wajdeloty,
nie, mnie nie zrozumie pan!

To nie mój styl —
z musztardówki pić
i z panem na wiarę żyć.
Wolałabym na stokrotkach spać
i trenować nowe miny i przed lustrem stać!
Tak bym chciała damą być, ach damą być,
ach, damą być
i na wyspach bananowych bananówkę pić!

Nie mam serca do pilności,
do piękności,
do świętości,
to zbyt wyszukany stan.
Nie mam głowy do dyplomu,
do poziomu,
zbiórki złomu,
nie, mnie nie zrozumie pan!

Damą być, ach, c'est si bon,
o, c'est si bon,
o, c'est si bon,
tylko gdzie te, gdzie te damy, gdzie te damy, są?
Z kochasiem gdzieś
poszły w siną dal,
odfrunęły z królikami
a głupiemu żal!

# Курёзы

### ЗДАНІ З'ЕЛІ ГРОШЫ

Амерыканскі мільянер Уолт Пруст ашалеў ад грошай — ён не ведаў, чым пазабавіцца. І вось натрапіў на забаўку: купіў у Шатландыі замак, у якім, па сведчанню яго ўладальніка, водзяцца здані. Толькі гэтая акалічнасць і прымусіла таўстасума раскашэліцца — захацелася пабачыць зданяў.

Два месяцы чакаў Уолт Пруст у купленым замку зданяў, а іх не было. А паколькі такіх істот, як здані, у свеце не бывае, то выходзіць, што пакупніка, мякка гаворачы, надулі. Прыйшлося падаваць у суд, разводзіць судовую валакіту. Але суддзя натрапіўся дужа знаходлівы. Валакіты не дапусціў. Ён проста прыкрыў справу па той прычыне, што не можа выклікаць сведак — самых зданяў, якія б растлумачылі суду, чаму яны не хочуць з'яўляцца да новага гаспадара замка...

### ТРАГІЧНЫ КАРНАВАЛ

Кожны год у Рыо-дэ-Жанейра наладжваюцца вясёлыя карнавалы. Вось і ў гэтым годзе прайшоў традыцыйны карнавал, у якім прынялі ўдзел жыхары горада, 300 тысяч гасцей з усіх канцоў Бразіліі, а таксама 12 тысяч замежных турыстаў. На гэты раз карнавал закончыўся не дужа весела, а больш правільна — трагічна. У выніку стыхійных боек і сутычак 118 удзельнікаў свята прама з карнавала адправіліся на той свет, а 10.728 чалавек з сур'ёзнымі траўмамі і ранамі патрапілі ў бальніцы.




*Калі ваша жонка на вас не бурчыць, значыць, ёй нешта нездаровіцца.*